

Магілеўскі
# ВЫБАР
№ 11 (49)
Чэрвень
2015 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна

# АБ САЦЫЯЛЬНАЙ СПРАВЯДЛІВАСЦІ І СУТНАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЙ МАДЭЛІ

***Ужо дваццаць год вышэйшае беларускае чынавенства на чале з А.Лукашэнка ўсё цвердзяць беларускаму народу, што ў нашай краіне створана такая сацыяльна-эканамічная мадэль, дзе ўсе пераўтварэнні, рашэнні і падыходы накіроўвюцца на забяспячэнне сацыяльнай справядлівасці, абарону і падтрымку працоўных.***

У падобным стылі прагучалі словы кіраўніка краіны і 22 траўня 2015 года ў час яго выступу перад дэлегатамі VII з’езда Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі :

*"Менавіта для чалавека працы створана наша палітычная сістэма, якая гарантуе мір і парадак, эканамічная мадэль, што забяспечвае магчымасць працаваць і зарабляць. Мы стварылі магутную сацыяльную сістэму - даступную медыцыну, адукацыю, жыллё, надзейную сацыяльную абарону".*

*"У гэтым галоўны сэнс і сутнасць беларускай сацыяльна-эканамічнай мадэлі… І ад гэтых прынцыпаў мы не адступім ніколі",* - дадаў ён, выступаючы перад прысутнымі на з’ездзе.

Аб якіх жа гарантыях, сацыяльнай абароне і справядлівасці можа ісці гаворка? Бо ўсе мы добра ведаем аб магчымасцях нашай “бясплатнай” медыцыны для народа і наяўнасці спецыяльных медычных установаў для высокапастаўленага чынавенства і іх сямей, а тым болей – аб магчымасці працаваць і зарабляць прыстойныя заробкі.

Але прапаную пакуль што гэтыя пытанні пакінуць па-за ўвагай і прыпыніцца на адным цікавым выказванні Лукашэнкі аб “стварэнні нашай палітычнай сістэмы”.

Каб зразумець, што ж хаваецца за гэтымі яго словамі: *“Менавіта для чалавека працы створана наша палітычная сістэма…”,* прапаную чытачам звярнуць увагу на падзею, што адбылася напярэдадні з’езда прафсаюзаў - 21 траўня 2015 г.

У гэты дзень была праведзена нарада па ўдасканаленні заканадаўства аб ахове і выкарыстанні зямель. На разгляд кіраўніка дзяржавы быў прадстаўлены праект указа, у якім вынесены прапановы па змяненні заканадаўства аб адабранні і прадстаўленні зямельных участкаў.

Першасныя асацыяцыі звязаныя з самой назвай гэтага дакумента па стылю нагадваюць выказванне аднаго з вядомых персанажаў кінафільма “Вяселле ў Малінаўцы” – “будут грабить”.

Бо якія б рашэнні па зямлі не прымаліся ці ў часы Савецкага Саюзу, ці ў часы незалежнай Беларусі, усе яны былі скіраваны на звужэнне права грамадзян на валоданне або карыстанне зямлёй. Так было ў часы калектывізацыі. Так адбываецца і зараз, калі калгасы ператвараюцца ў іншыя формы ўласнасці.

У час нарады кіраўнік краіны нагадаў прысутным аб часах, калі старшыням абласных выканаўчых камітэтаў былі прадастаўлены паўнамоцтвы распараджацца землямі ў плане іх адводу пад будаўніцтва. Аднак надалей гэты парадак быў зменены.

*"Чаму гэта адбылося, я гаварыў. Такога хаосу і непарадку на зямлі, як у той перыяд, у нас не было! Пачалі будаваць на ўрадлівых землях розныя склады, прадпрыемствы, ды і жыллё",* - адзначыў ён.

*"Мае адносіны да зямель, асабліва сельгаспрызначэння,*



*ды і лясного фонду, вы ведаеце. Сёння ніякіх мерапрыемстваў у плане будаўніцтва і гэтак далей, звязаных з адвядзеннем зямель, без дазволу Прэзідэнта ў краіне не праводзіцца",* - сказаў А. Лукашэнка ў час нарады.

Але ж за часы "хаосу і непарадку на зямлі" беларускае чынавенства паспела ў значнай ступені павырашаць усе свае зямельныя пытанні. Ды і не толькі свае, а і сваіх родны і блізкіх.

Нешматлікія незалежныя выданні краіны ў сваіх публікацыях тых часоў, ды і зараз, неаднойчы звярталі ўвагу на негатыўныя працэсы па незаконнаму адвядзенню зямлі. Нават былі выпадкі, калі па выніках публікацый у незалежных СМІ мясцовыя ўлады вымушаны былі даваць "задні ход" па сваіх рашэннях. Як гэта было па факце незаконнага выдзялення ўчастку ў г.Магілёве пад будаўніцтва жылога дома былому старшыні Бялыніцкага раённага выканаўчага камітэту А.Ільянаву. Магілёўскімі ўладамі ўчастак быў адабраны ў Ільянава і вернуты дзяржаве. Але ж гэта былі адзінкавыя факты. Асноўная маса чынавенства, незаконна атрымаўшая ўчасткі, валодае землямі да гэтых часоў.

З тае пары за апошнія 7 - 8 год многія з іх змянілі свае працоўныя месцы, а некаторыя і месцы пражывання. І ўжо па новаму колу яны паспяхова вырашаюць свае зямельныя пытанні.

Найбольш, канешне, пашчасціла тым, хто па роду сваёй дзейнасці апынуўся ў Мінску. Тут каля 40 чалавек са згоды кіраўніка дзяржавы атрымалі ў "падарунак" надзелы па 12-15 сотак для будаўніцтва жылля ў Вяснянцы. Кожны з іх стаў уладальнікам участкаў з коштам ад 230 да 290 тыс. дал. ЗША. Яшчэ раней больш пяцідзясяці высокапастаўленых чыноўнікаў атрымалі гатовае жыллё ў Драздах. Практычна ўсе яны за гэты час правялі прыватызацыю жылога фонду, аформіўшы свае дамы на жонак або дзяцей, і ўжо па якому разу, як "бяздомныя", вырашаюць зямельныя "праблемы".

Уладальнікамі прэстыжных участкаў сталі прадстаўнікі сілавых структураў, вышэйшае чынавенства, народныя абраннікі. Найбольш прэстыжна-паспяховай у плане рэалізацыі жыллёва-зямельнага пытання стала пасада дэпутата Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь па Шклоўскай выбарчай акрузе. Як былыя дэпутаты У.Канаплёў і В.Іваноў, так і дзеючы - А.Агееў, апынуліся ў гэтых спісах "шчасліўчыкаў".

А што ж працоўны чалавек, за якога так "апякуюцца" кіраўнік краіны, народныя абраннікі, чынавенства?

А працоўны чалавек апынуўся ў сітуацыі, як тая бабуля ў казцы А.Пушкіна – каля "разбітага карыта".

Як, напрыклад, каля пяці тысяч маладых сямей, што пад дзесяць год стаяць у чэргах на атрыманне ўчасткаў для будаўніцтва жылля ў г.Магілёве. І перспектываў у іх па вырашэнні зямельнага пытання не прадбачыцца. Бо за гэты час змяніўся не адзін старшыня абласнога выканаўчага камітэту, і ні адзін з іх не сумеў або не захацеў аформіць неабходных дакументаў па адводу земляў пад будаўніцтва жылля на зацвярджэнне ў кіраўніка краіны.

За гэты час у маладых людзей нарадзіліся дзеці, год праз дзесяць з'явяцца ўнукі, а аб прыстойным жыллі на сваім зямельным участку ім застаецца толькі марыць.

Падобных фактаў па ўсёй краіне мноства.

Вось і ўся сацыяльная справядлівасць, абарона і падтрымка працоўнага чалавека, у якой хаваецца галоўны сэнс і сутнасць беларускай сацыяльна-эканамічнай мадэлі ў створанай "нашай" палітычнай сістэме.

Дык для каго ж створана гэтая "наша палітычная сістэма"?



***Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор КАСТУСЁЎ.***

# КОРРУПЦИЯ: ВЛАСТЬ И СЛЕЗЫ НАРОДА

***Коррупция** - использование должностным лицом своих властных полномочий и доверенных ему прав в целях личной выгоды, противоречащее законодательству и моральным установкам.*

Коррупция считается одной из самых опасных для современного общества социальных болезней, препятствующая экономическому развитию государства. И хотя экономический ущерб от коррупции чрезвычайно трудно определить из-за скрытого характера этого вида преступности, между степенью коррумпированности общества и материальным благосостоянием его граждан существует весьма жесткая обратная зависимость. Связь эта выглядит предельно просто: чем больше то или иное государство поражено коррупцией, тем хуже живет его народ. Но, помимо прямого вреда, который коррупция наносит обществу, она еще и дискредитирует власть как таковую, в том числе и высшее политическое руководство страны, ибо именно на него народ, в конечном счете, возлагает ответственность за все происходящие негативные процессы в стране. Поэтому в противодействии коррупции заинтересована, прежде всего, сама власть, если она заботится о стабильности своего будущего.

Эффективность власти определяется объемом финансовых ресурсов (бюджет) и способностью рационально ими распорядиться в реализации макроэкономической политики государства. Очевидным экономическим последствием коррупции является сокращение государственного бюджета и нерациональность использования ресурсов. Коррумпированные чиновники позволяют уклоняться от налогов предпринимателям, неправомерно освобождая их от уплаты в полном объёме - **э**ффективность механизма налогооб-

ложения сильно снижается, вследствие чего в государственном бюджете образуются прорехи, способные оказывать роковое влияние не только на экономику, но и на социальные и даже политические процессы. К сожалению, у большинства белорусских чиновников отсутствуют понятия чести и долга, которые во многом определяют уровень благосостояния демократических государств. Не случайно наиболее успешными в своем развитии оказались те народы, у которых честь и долг ценятся выше коварством обретенной власти и неправедно нажитого богатства.

Коррупция оказывает негативное влияние и на демографические процессы. Так, например, исследования Транспаренси Интернэшнл указывают на высокие показатели обратной зависимости между продолжительностью жизни населения и индексом коррупции. Чем выше индекс коррупции в стране, тем ниже ожидаемая продолжительность жизни граждан.

Духовная деградация народа довершает картину разлагающего воздействия коррупции на общество - не может быть счастливым народ, если жизнь его поражена обманом и бесчестьем.

Коррупция в форме взяточничества относится к сфере деловых отношений и большой политики. Именно там время от времени вскрываются вопиющие факты крупных взяток - это коррупция элиты и так называемая, «деловая» коррупция. Посредством коррупции власть предержащие за счет бюджета реализуют неэффективные проекты, финансируются искусственно раздутые сметы, выбираются «нужные» подрядчики. Коррупция стимулирует создание чрезмерного числа инструкций, «организовывает» бюрократическую волокиту при оформлении деловых документов при реализации инвестиционных проектов, особенно иностранных. Средства, аккумулируемые посредством коррупционных схем, оседают в форме недвижимости и сбережений в иностранных




банках. Эксперты называют баснословные суммы, вращающиеся в коррупционных потоках нашего государства. Народу лишь остается лить слезы по данному поводу и проявлять негатив на бытовом уровне.

Масштабы воровства и коррупции в Могилевской области впечатляют своим разнообразием и объемами. В 2014 году на треть увеличилось количество выявленных преступлений в налоговой сфере. Большая часть из них - тяжкие преступления, связанные с причинением ущерба в особо крупном размере. В 2015 году существенно увеличилось количество привлеченных к ответственности коррумпированных чиновников. В поле зрения оперативников оказались свыше 60 должностных лиц, в том числе 13 занимавших ответственное положение, а также восемь, должности которых включены в кадровый реестр Президента. Причем хищений, совершенных путем злоупотребления служебными полномочиями в особо крупном размере, выявлено практически в два раза больше.

Не потому ли Беларусь в лидерах по числу экономических преступлений, что на предприятиях не работает система учета, экономического анализа и контроля и это позволяет непорядочным чиновникам использовать ситуацию в личных целях.

Экс-руководителя "Могилевсоюзпечати" арестовали по подозрению в хищении в особо крупном размере - с февраля 2014 года по март 2015-го он брал деньги из кассы и не возвращал. Подозревают, что таким образом он похитил более 280 млн рублей. Это подтверждают результаты следственных действий, акты проверок. А ведь арестованный совсем недавно заседал в Палате Представителей Национального собрания Республики Беларусь.

На этом фоне преступление освобожденного от занимаемой должности председателя Бобруйского райисполкома за незаконное использование служебного транспорта с 2011-го по 2014 год кажется мелкой шалостью и носит характер устранения неугодного чиновника.

За злоупотребление служебными полномочиями в Могилевской области возбуждено дело в отношении директора одного из коммунальных предприятий города и учредителя общества с ограниченной ответственностью "Доринвест". Граждане подозреваются в том, что организовали для этого общества различные строительные работы силами коммунального предприятия. И этим причинили ущерб на сумму более 372 млн рублей (более 24 тысяч долларов США). По этой же статье возбуждено уголовное дело в отношении начальника отдела одного из коммунальных предприятий Могилева. Сотрудница подозревается в том, что, не имея на то полномочий, подписала акт сдачи-приемки выполненных объемов строительных и иных специальных монтажных работ, где указала недо-

стоверные сведения. Этими действиями гражданка причинила ущерб государству на сумму более 1 млрд рублей (примерно 65 тысяч долларов).

Факты уклонения могилевской частной строительной фирмы от уплаты налогов в сумме 3,1 млрд рублей выявлены в ходе проверки, которую провели финансовая милиция и налоговая инспекция по Октябрьскому району Могилева.

За получение взятки в 4,4 тыс. долларов США за обещание решения вопроса приобретения электротехнической продукции у российской фирмы задержан главный энергетик Лифтмаша. За последнее время от управления ОАО «Бобруйский мясокомбинат» отстранили от работы двух директоров: первый из них подозревается в превышении власти с причинением ущерба предприятию на сумму более 22 млрд. рублей, второй попал под уголовную статью за попытку хищения партии колбасных изделий с территории мясокомбината.

Три должностных лица РУП "Фармация" с января 2005 по октябрь 2012 г.г. похитили более 586 млн рублей, принадлежащие предприятию. Подозреваемые принимали от работников медучреждений в Бобруйске и Бобруйском районе деньги, вырученные от продажи лекарственных средств и сопутствующих товаров предприятия по договорам подряда, часть забирали, а в документы вносили ложные сведения, занижая сумму полученных денег. Деньги подозреваемые использовали по своему усмотрению. К слову, в 2014 г. в Бобруйске зарегистрировано преступлений на 2,3% больше к уровню 2013 г., в то время как их раскрываемость увеличилась только на 1,1%.

Грешат воровством и «колхозники» - в Осиповичском районе по ч.1 ст.210 УК (Хищение путем злоупотребления служебными полномочиями) возбуждено уголовное дело в отношении председателя одного из сельскохозяйственных предприятий. Работник подозревается в хищении мяса на сумму около 7 млн рублей.По материалам УВД Могилевского облисполкома возбуждено уголовное дело в отношении бывших председателя и главного агронома одного из СПК. Подозреваемые фиктивно списали минеральные удобрения на 195 миллионов рублей, сообщили в управлении информации и общественных связей МВД.

В последнее время мошенники "изобрели" проверенный способ обогащения через наращивание дебиторской задолженности. Прокуратура Могилевской области возбудила уголовное дело в отношении заместителя директора ОАО "Могилевский мясокомбинат", который подозревается в том, что, зная о дебиторской задолженности одного из обществ с ограниченной ответственностью перед мясокомбинатом, организовал заключение дополнительных соглашений к контракту. Эти допсоглашения увеличивали сроки оплаты поставленной продукции. Однако и эти сроки обществом также не соблюдались. Несмотря на указанные обстоятельства, он в феврале-марте 2014 г. инициировал дальнейший отпуск мяса крупного рогатого скота названному предприятию на общую сумму более 9 миллиардов рублей (около 635 тысяч долларов), которая в итоге осталась неоплаченной.

О масштабах коррупции в этом направлении говорит тот факт, что только за 2014 г. прокуратура области подготовила 446 исковых заявлений и заявлений о возбуждении приказного производства о взыскании дебиторской задолженности на общую сумму 270 млрд. рублей, из которой реально взыскано только 36 млрд.

Не мелочатся в воровстве уже и работники предприятий – если раньше они не выходили из статуса «несунов», сегодня масштабы гораздо серьезней. Четверо рабочих «Трансмаша» организовали преступную группу, деятельность которой была направлена на получение дохода посредством перепродажи украденного металла. Днем, в




— А я здесь недалеко работаю, на мясокомбинате...

рабочее время подозреваемые погрузили в грузовую автомашину 15 тонн легированного металла и вывезли за пределы предприятия. Впоследствии похищенный металл был обнаружен в частном домовладении у одного из подозреваемых. Четверо рабочих «Бабушкиной крынки» уворовали две тонны сухого обезжиренного молока на сумму более 99 млн рублей, мотивированные индивидуальным предпринимателем, который намеревался похищенную продукцию реализовать в Российскую Федерацию. Воруют все, что можно: горюче-смазочные материалы, семена, удобрения, металл, продукты питания, растения декоративные и плодовые, цветы…

С другой стороны, в Могилеве на 25 мая 48 предприятий не выплатило зарплату за апрель – за что людям жить? Да и в целом реальная зарплата по Могилевской области за 1 квартал 2015 года снизилась на 5,1%. Рост зарплаты сегодня обеспечен только в бюджетной сфере и все на те же 5,1%. У работников промышленности реальная зарплата снизилась на 11,3%, у строителей – на 8,1%, на транспорте и связи – 3,2%, в сельском хозяйстве – на 1,6%. И не удивительно – уже несколько месяцев подряд экономика области находится в стагнации, уменьшается объем производства и реализации продукции, ухудшается экономическое положение всех предприятий. Закономерно, что бюджет области за 2014 год больше остальных пополнили частное предприятие "Пивоварни Хайнекен" и государственный Климовичский ликеро-водочный завод. Доля каждого из них в общих налоговых поступлениях - 4,9%. Если это результат наращивания экспорта, можно только приветствовать, а если потребляется продукция внутри области? И так бедное население еще и на алкоголь тратится.

В прежние времена законодателями «налоговых мод» являлись «Могилевхимволокно» и «Белшина», иные предприятия реального сектора экономики. Что изменилось в жизни приднепровского края?

Интересно, что из всех проблем Могилевской области вновь назначенный губернатор выделил недостаточный уровень информационно-разъяснительной работы с населением, вплоть до проведения соответствующих проблеме обучающих семинаров для повышения квалификации… соответствующих служб и структурных подразделений горрайисполкомов. Бред какой-то: дешевле было бы разогнать эти службы, которые никак не могут решить элементарные вопросы организации жизни населения: ремонт и приватизация жилья, благоустройство дворовых территорий, пенсионное обеспечение, землеустройство, обеспечение чистой питьевой водой. Вопросы, которые должны решаться в автоматическом режиме, сегодня являются объектом внимания главного лица области! О принципиальных проблемах в кадровой работе, о коррупции, ни слова. А сегодня это главное для власти в целом – скоро ведь «выборы» и нужно держать экзамен перед Президентом (народ не в счет).

А что нынешним чинушам нет дела до рядовых тружеников, до слёз бедствующего народа, очевидно даже на фоне еженедельно устраиваемых прямых линий с народом. Кто-нибудь анализировал, а потом реально реагировал на претензии трудящихся по квартирным вопросам, по зарплате, не говоря уже о проблемах общественной и политической составляющих нашей жизни?

Кадровая чехарда – одна из причин стагнации экономики Могилевской области и увеличения коррупционных преступлений. Чиновник должен отвечать за своего «выдвиженца» - пока этот принцип не будет реализован, у власти и будут безответственные и коррумпированные люди. Ответственный за кадровую работу в Могилевской области помощник Президента Г.Лавренков. Именно на нем лежит ответственность за деяния местного истеблишмента.

Борьбу с коррупцией в Могилевской области нужно начинать с высшего эшелона - в первую очередь отправить на пенсию Г.Лавренкова, сформировать кадровый резерв на основе профессиональных качеств, а не принадлежности к «Белой Руси». И дать большие полномочия правоохранительным органам! Может тогда и у рабочего люда меньше будет слёз на глазах, когда после зарплаты им нужно возвращаться к своим детям.



***Пётр МИГУРСКИЙ.***

# АДУСЮЛЬ ПАКРЫХУ

**Пракуратура Магілёўскай вобласці распачала справу за перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў, якое пацягнула цяжкія наступствы ў дачыненні да былога намесніка дырэктара аднаго з прадпрыемстваў Шклоўскага раёна. Ён ў парушэнне службовых абавязкаў, у 2013-2014 гадах арганізаваў адгрузку прадукцыі прадпрыемства без поўнай перадаплаты ў адрас суб'екта гаспадарання Латвіі. Замежная кампанія пасля поўны разлік не зрабіла. Супрацьпраўныя дзеянні пацягнулі цяжкія наступствы ў выглядзе нанясення шкоды прадпрыемству ў асабліва буйным памеры больш чым на 280 тыс. еўра. Санкцыя ч.3 арт. 426 КК прадугледжвае пакаранне за ўчыненне злачынства ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.**

**У Беларусі ў студзені-сакавіку 2015 г. паступленне валютнай выручкі склала $ 7.743 млрд., што на 24,4% менш, чым у студзені-сакавіку 2014 г. У сакавіку валютная выручка вырасла на 26% да папярэдняга месяца і знізілася на 22,5% да сакавіка 2014 г. Плацяжы па імпарту ў студзені-сакавіку склалі $ 6.961 млрд., знізіўшыся на 28,8% да аналагічнага перыяду 2014 г. У сакавіку плацяжы па імпарту выраслі на 22,9% да папярэдняга месяца і знізіліся на 20,3% да сакавіка 2014 года.**

# А мы ўсё чуем пра квітненне...

Згодна афіцыйных дадзеных галоўнага статыстычнага ўпраўлення Магілёўскай вобласці, цэны на харчовыя тавары ў рэгіёне за год (з студзеня 2014-га па студзень 2015-га) выраслі на 17,2%. Найбольш падаражэлі мяса і птушка (23,9%), садавіна (23,4%), каўбасныя вырабы і крупы (па 22,8%). Кошты на прамтавары падняліся на 9,7%. Больш за ўсё яны выраслі на медыкаменты (26,1%), бензін (25,8%), сінтэтычныя мыючыя сродкі (12,5%).

Ну а найбольш у Магілёўскай вобласці выраслі кошты на платныя паслугі насельніцтву (31,1%). Так, у нашай "сацыяльнаарыентаванай" краіне, пра што так любяць распавядаць казкі магілёўскія чыноўнікі, кошты на паслугі дзіцячых дашкольных устаноў выраслі на 94,4%, паслугі канцэртных арганізацый падаражэлі за год на 82,6%, турыстычныя – на 54,8%.

Карацей, бялынічанін, працуй за два-тры мільёны "зайчыкаў" (калі здолееў гэтую працу знайсці), еш бульбу з капустай, а пра нейкія буржуінскія краіны і канцэрты нечага марыць…

Прычым, паважаныя чытачы, гэтыя лічбы росту коштаў літаральна на ўсё браліся яшчэ да пачатку абвалу нашага слаўнага беларускага "зайчыка" адносна долара ЗША і іншых буржуінскіх валют, а таксама да сканчэння забароны на падвышэнне цэн, якое ўвялі нашыя родныя ўлады. Зараз цэны падвысіліся нашмат больш - вы самі можаце гэта ўбачыць пры кожным наведванні крамы ў Бялынічах, асабліва калі захочаце набыць тую ж садавіну ці рыбу.

Зразумела, што бываюць у развіцці краіны разнастайныя крызісы (праўда, у мяне такое ўражанне, што ў нас яны чамусьці ніколі не сканчаюцца). Дык ужо б "не трындзелі" ў дзяржаўных СМІ ў матэрыялах да "адзінага дня інфармавання" пра нечуваны росквіт і дасягненні як быццам бы людзі не бачаць рэальную сітуацыю ў вобласці і краіне. Згодна тых жа афіцыйных дадзеных беларускіх статыстыкаў, за мінулы год рэальныя грашовыя даходы насельніцтва Магілёўскай вобласці зменшыліся на 2,8%, а мы ўсё слухаем казкі пра "квітненне".

Што самае дрэннае, бліжэйшым часам сітуацыя будзе толькі пагаршацца. Нашы вельмі разумныя ўлады заняліся пошукамі "дармаедаў", замест таго, каб падумаць аб тым, як стварыць у тым жа Бялыніцкім раёне новыя высокааплатныя працоўныя месцы. Для каго з бялынічан з'яўляецца сакрэтам, што знайсці ў нас у раёне працу з нармальным заробкам можна толькі "па блаце"? Рэальна ў большасці існуючых у раёне арганізацый вольных працоўных месцаў няма. Можна, канешне, раздуць штаты, але чым і з якіх крыніц аплочваць працу гэтых людзей? Таму мае знаёмыя хлопцы, якія прыехалі з заробкаў у Расіі і паспрабавалі ўладкавацца на працу ў некалькіх арганізацыях у Бялынічах, у рэшцерэшт гэта зрабіць не здолелі і з'ехалі зноў у Расію, хоць і там зараз далёка не цукар. Прычым усе яны былі даволі добрыя адмыслоўцы і далёка не "булдосы"…

Пра што казаць, калі зараз ужо няма працы нават у калгасах раёна з іх "казачнымі" заробкамі. Большасць гаспадарак цалкам закрэдытавана, і мне абсалютна незразумела, як яны будуць існаваць далей, калі ўлады пачнуць сапраўды выконваць мудрае ўказанне Рыгоравіча аб тым, што толькі прыбытковыя сельгаспрадпрыемствы змогуць атрымліваць дапамогу. Між тым, толькі на правядзенне веснавой сяўбы гаспадаркам Магілёўскай вобласці патрабуецца, згодна аблсельгасхарчу, каля двух трыльёнаў рублёў. І дзе іх вaзьмуць сельгаспрадпрыемствы, калі выручкі ад рэалізацыі прадукцыі хапае толькі на выплату заробкаў (і тое далёка не ўсім гаспадаркам Бялыніцкага раёна).

*Рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва Беларусі (грашовыя даходы за вылікам падаткаў, збораў і ўзносаў, скарэкціраваныя на індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) у першым квартале 2015 г. склалі 95,8% да ўзроўню першага квартала 2014 г. Пра гэта паведамілі карэспандэнту БелТА ў Нацыянальным статыстычным камітэце.*

У Магілёве сітуацыя не лепшая. Большасць прамысловых прадпрыемстваў перайшла на скарочаны працоўны тыдзень, паўсюль пачаліся скарачэнні працуючых. Для прыкладу, за дзевяць месяцаў мінулага года колькасць работнікаў на «Магілёўхімвалакно» скарацілася больш чым на тысячу чалавек (15% штата). І большасць адэкватных эканамістаў адназначна прагназуюць, што далей сітуацыя ў эканоміцы вобласці будзе яшчэ горшай, без скарачэння колькасці працуючых альбо значнага памяншэння іх заробкаў прадпрыемствы проста не выжывуць.

Аднак нашых мудрых чыноўнікаў такая сітуацыя не вельмі хвалюе, яны ж "сядзяць на бюджэце". Між тым, на думку Белстата, сярэдні заробак у Беларусі цягам снежня 2014 года склаў каля 6 806 тысяч рублёў (чаму я асабіста не вельмі веру), а заробак у сферы дзяржаўнага кіраўніцтва за той жа перыяд - ужо 8 539,7 тысячы рублёў. Гэта значыць радавы чыноўнік пад бой курантаў пералічваў пачак беларускіх грашовых знакаў на 25,5% больш, чым сярэдні эканамічна актыўны абывацель.

Таму, паважаныя нашы чыноўнікі, не трэба "ля-ля" наконт росквіту і павышэння дабрабыту насельніцтва раёна. Магчыма, вы проста блытаеце ўласныя поспехі ля кармушкі з "дасягненнямі" шэраговых белынічан, выжываць якім становіцца ўсё складаней…

**Іван БАРЫСАЎ.**

# Мікалай СТАТКЕВІЧ: "Не імкнуся ў героі, але хачу застацца прыстойным чалавекам"



Бялыніцкі журналіст Барыс Вырвіч 16 траўня атрымаў ліст з Магілёўскай турмы №4 ад палітвязня Мікалая Статкевіча, у якім экс-кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь распавёў пра ўмовы свайго ўтрымання на новым "старым" месцы зняволення.

У прыватнасці, Микалай піша: *"…Але цяпер я ізноў у Магілёўскай турме, куды мяне накіраваў суд да канца тэрміну, і пісаць тут куды болей зручна. Таму збіраюся адказваць на ўсе лісты.*

***Тое, што я ізноў на турэмным рэжыме, чакалася ад самага пачатку. Мабыць, нехта палічыў, што калонія няздатная мяне пераканаць напісаць тое "прашэнне". Насамрэч, хоць калонія непрыемнае, цяжкое і дэпрэсіўнае месца, але нічога "шокавага" там няма. Вельмі нагадвае войска – такія ж казармы (толькі без зброі), перамяшчэнне строем у калонію і г. д. Толькі праца замест вайсковай падрыхтоўкі. Турма ж з'яўляецца сур'ёзным выпрабаваннем для фізічнага і псіхічнага здароўя з-за пастаяннага знаходжання толькі ў замкнёнай прасторы. Ну а другая "крытая" запар прызначаецца найбольш небяспечным і непакорлівым арыштантам і мае на мэце зламаць іх фізічна і маральна. Спадзяюся вытрымаць, але цвёрда ведаю толькі адно – здрады ад мяне не дачакаюцца. Не імкнуся ў героі, але хачу застацца прыстойным чалавекам. На жаль, у нашай краіне гэта можа каштаваць даволі дорага. Гатовы плаціць.***

***Вырашыў сядзець адзін, бо ўсе "афіцыйныя" сродкі ўціску (ШІЗА, ПКІ, цяжкая праца) на мне ўжо неаднаразова апрабавалі. Застаюцца толькі "неафіцыйныя" – праз адмыслова падабраных сукамернікаў. Мяне гэта асабліва не палохае – я і сам магу націснуць. Але пастаянна кантраляваць паводзіны суседзяў не хачу. Надакучыла.***

***Газетаў не бачыў з красавіка. Адзіная крыніца інфармацыі тут – 1-я праграма беларускага радыё з рэпрадуктара ў камеры"…***

Свой ліст бялыніцкаму журналісту Мікалай Статкевіч напісаў у магілёўскай турме 10 траўня. Па словах Барыса Вырвіча, з пісьма зразумела, што ў красавіку падчас знаходжання ў Шклоўскай калоніі да Статкевіча дайшлі не ўсе лісты з волі. Таксама палітвязень напісаў пра апошні час свайго знаходжання ў калоніі, што ***"з канца сакавіка апынуўся ў ШІЗА, а потым у ПКТ, дзе пісаць доўга не вельмі зручна – цёмна і нават нармальна прысесці няма як",*** ды падзяліўся сваімі меркаваннямі наконт планаў да выбараў і стану спраў у апазіцыйных арганізацыях.



# Логистика, логика и здравый смысл

Наша жизнь сегодня – это спектакль абсурда: одно думаем, другое говорим, а третье делаем. Чтобы сравнивать все разночтения между сказанным и делами, можно ужаснуться реальной действительности. В одном из своих выступлений Президент обмолвился о том, что мы качественно смогли пристроить более семи тысяч тракторов. Я задумался и стал разбираться. В каждый район республики было поставлено от 25 до 100 тракторов МТЗ – 80, 82, выпуска 2013, 2014 годов (краска уже стала отшелушиться). 25% стоимости тракторов хозяйства заплатили сразу, а остальная сумма - кредит. В старые добрые времена за такую помощь в период посевной можно было бы в ножки кланяться Правительству и руководству страны. А, что у нас? А у нас для этой техники в хозяйствах уже не осталось прицепного и навесного инвентаря. Он весь с успехом сдан на металлолом или невинно украден, или куплен за копейки бывшими руководителями и специалистами колхозов и совхозов. В районе в частном секторе насчитывается около сотни тракторов и практически каждому из них есть шлейф прицепных и навесных агрегатов.

А что в СПК? Не стану говорить за все хозяйства Хотимского района, но в одном из самых лучших – СПК «III Интернационал» нашли применение только одному из пяти тракторов, подцепив к нему сварочный агрегат.

В мою бытность заместителя председателя райисполкома, существовала отчётность по наличию агрегатов для каждого вида техники, что давало возможность контролировать её наличие, следить за ремонтом и рассчитать нагрузку на каждый агрегат. Существует она теперь или нет? Но те, кто принимал

решение по пристройке данных тракторов явно не владели такой информацией, и получился, увы, очередной холостой выстрел. Хотя, с другой стороны, наличие таких агрегатов у частников во многом помогает оставшемуся в живых сельскому населению выживать в столь непростых условиях существования. Обработка приусадебных участков по первому требованию, в любое время суток, от посева до уборки за наличные деньги.

Один мой товарищ, вернувшийся из командировки в Венесуэлу, привёл такой пример. Около трёхсот многокорпусных оборотных плугов, поставленных в Венесуэлу, за 2,5 года вросли в бамбуковую рощу, которая более четырёх метров высотой. Для работы с ними не были поставлены энергонасыщенные трактора, а у нас в республике в это время не хватало этих плугов. Где же мозги?

И ещё об одном текущем вопросе - о закрепления кадров на селе - остановлюсь отдельно. С мая этого года по инициативе районного управления сельского хозяйства принято решение о снижении уровня заработной платы в СПК для главных специалистов не более чем 3 миллиона белорусских рублей в месяц. Их нет, а те, кто работают, уйти не могут, так как проживают в домах государственной собственности, и это их сдерживает. Замечу, что в Минске уборщица меньше, чем за пять миллионов не работает. А, что будет дальше? Могу предположить, что специалисты сельского хозяйства с удовольствием пойдут в уборщики, снимая жильё, на которое цены упали очень низко в Минске. Не будет болеть голова у них за производственные процессы, а самое главное – за результат.



***Валерий КОРОНКЕВИЧ.***

# Курочка на гнезде

***Почему мы так плохо живём? Почему с каждым прожитым годом у нас заоблачно растут цены на всё? И наши зарплаты и пенсии не успевают за этим «бегом»…***

Я выражу лично своё мнение. Потому что мы привыкли жить в долг и не по средствам. Все! Или почти все! Уже стало, как в том анекдоте, когда родители жаловались, что ещё не выплатили долги за свадьбу, а семья уже распалась. Вот так и наше государство. Ради «государственной свадьбы» - Дожинок, готовы выскочить из штанов, пустить пыль в глаза гостям. В этом году нас «осчастливили»: областной праздник пройдёт в нашем районе.

Подготовка к празднику «дожимок» в самом разгаре. Приказали долго жить более сотни деревьев в парке и на стадионе. Окультурили стадион так, что зрителям не будет где спрятаться даже от ветра. Но особенно осчастливили районную библиотеку, в которой не было ремонта со времени строительства. Сейчас там, где было книгохранилище, будут общественные туалеты на несколько мест. Где будут книги – это не важно.

Что нам ещё преподнесёт земля-матушка и погода-мачеха - мы не знаем. Порадуют ли они нас большим урожаем, или мы соберём всё опять с гулькин нос, и всю зиму будем чесать «репу» и метаться по знакомым в поисках кормов для личного подсобного хозяйства. Про СПК я лучше помолчу, про жизнь колхозной скотины нам неизвестно. Об этом уже не первый год молчит и районная газета «Сельскае жыццё». Может и к лучшему: зачем омрачать душевный покой жителей района? Поэтому на первой полосе газеты мы видим одни и те же лица, которые ведут нас к процветанию страны. О том, как они празднуют и заседают, знают все труженики нашего бедного дотационного района. А так как промышленность наша приказала долго жить, то, видимо, долги нам приносят, несмотря на успехи ПМК-266, всё-таки наши СПК. Что и неудивительно!

Ведь если бы все эти деньги, которые потратятся на неважные в наше время объекты культуры, «пир во время чумы», вложить в модернизацию сельского хозяйства района, если всё это сделать открыто, так чтобы народ знал, куда потрачены деньги, то мы, наверное, больше бы оценили хозяйственную деятельность райисполкома.

В этом году не было снега. Земля уже в марте стояла пересохшая, и, несмотря на тепло, не спешит расти трава. Какой будет урожай, волнует только некоторых, ещё не очерствевших душой и здравомыслящих людей. А руководство района самозабвенно «греет сковородку», вбухивая в стройки развлекательных объектов миллионы народных денег. Создаётся впечатление, что жизнь района похожа на жизнь больной убогой старухи, у которой хватает сил вымыть только лицо, и в грязной неопрятной одежде выйти к людям, в надежде, что они не заметят её убогости.

...Отшумит, отгудит за пару дней праздник «Дожинок» и мы останемся с тем, что имеем: с разбитыми дорогами в городском посёлке, с высокими непосильными ценами, с бурьяном на многих полях. Со своими думами и мыслями. Ведь вряд ли снесёт золотое яичко колхозная, как бы там её не переименовали, курочка.

***Зинаида МИЛЕЩЕНКО.***

*Магілёўскі* **ВЫБАР**

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна.
Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 4.06.2015 г. у 10.00.